**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 17 (890) 27 красавіка 2017 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by







Фота Ул. Скрабатуна.




Шыльда памяці Віталя Гарановіча ўсталяваная на будынку Глыбоцкай СШ№3. 22.04.2017 г.

























ISSN 2077-8023
9 772077 802009 10017

Полацкі раён

# Свята ў новым фармаце

■ Станіслаў Раманчук.

**Штогод у пачатку восені ў Беларусі адзначаюць найважнейшае ў духоўным жыцці грамадства мерапрыемства – Дзень беларускага пісьменства.**

Летась эстафету яго правядзення Рагачоў перадаў старажытнаму Полацку, дзе яно сёлета адбудзецца 1-3 верасня ў 24-ты раз. У горадзе напярэдадні пабывала кіраўнік рабочай групы па падрыхтоўцы ўрачыстасцей, міністр інфармацыі Беларусі Лілія Ананіч і пацвердзіла, што яны пройдуць у новым фармаце і на працягу трох дзён. Гэты маштабны нацыянальны праект набудзе новае гучанне і на міжнародным узроўні, бо адзначаць не толькі 500-годдзе першай друкаванай беларускай кнігі, але і 1155-годдзе Полацка, стаўшага падмуркам беларускай дзяржавы. У суботу 2 верасня цэлы дзень будзе прысвечаны юбілейнай даце для палачан на Дні горада, а вечарам пачнуцца галоўныя падзеі свята пісьменства. На выязным прыёме грамадзян міністр падтрымала ініцыятыву грамадскасці аб уключэнні ў святочную праграму прыгожага фестывалю сярэдневечнай культуры "Рубон" з удзелам некалькіх рыцарскіх клубаў. Дарэчы, само свята і пачалося тут упершыню ў далёкім 1994 годзе, вярнулася сюды потым яшчэ праз 9 гадоў, бо на Полаччыне ўсё пачыналася, адсюль бяруць карані,вытокі, гонар і веліч нашай краіны, пачынаючы з прападобнай Еўфрасінні. Пра гэта будзе шырока ўзгадана ў першы дзень, калі пройдзе Нацыянальны дзіцяча-маладзёжны форум "Скарынаўскія дні ў Полацку". Падчас маштабных урачыстасцей у Полацку адкрыюць памятны знак, сюды прыедуць шмат знакамітых творцаў і турыстаў.

Чашніцкі раён

# Агонь памылак не даруе

■ Кастусь Александровіч

**У гэтым годзе ў нашай краіне вясна асабліва не радавала цёплым і сонечным надвор'ем, наадварот яно было даволі халодным і з ападкамі.**

Нягледзячы на гэта, многія суайчыннікі па ранейшаму займаліся паламі сухой расліннасці. За некалькі тыдняў у розных кутках вобласці было зафіксавана 38 падобных выпадкаў на значнай плошчы ўзгарання, што прывяло да сумных наступстваў. Вось і ў Чашніцкім раёне пенсіянерка з вёскі Сялец наводзіла парадак каля сваёй хаты і на панадворку вырашыла спаліць сабранае смецце. Аднак старая жанчына не ўлічыла, што ў той дзень быў даволі моцны вецер, які хутка перакінуў полымя на хлеў гаспадыні. Гэта здарэнне ўбачыла праз вакно суседка і пайшла на вуліцу, каб нечым дапамагчы справіцца з узгараннем. Разам жанчыны паспрабавалі патушыць агонь, але ён ужо перакінуўся на сцены і дах пабудовы. Каштоўны час быў упушчаны, і, калі пажарныя прыбылі па выкліку, полымя ўжо знішчыла дах, гуляла па ўсёй плошчы будынка і перакінулася на суседні хлеў. Добра яшчэ, што агонь не перакінуўся на жылыя дамы вяскоўцаў. З пажарам неўзабаве справіліся, аднак адзін хлеў практычна згарэў, моцныя пашкоджанні атрымаў і суседскі. І хоць віноўніца інцыдэнту шчыра ва ўсім прызналася, што яна натварыла, гэта не вызваліць яе ад адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры ад 10 да 40 базавых велічынь. Матэрыяльныя страты ад пашкоджанай нерухомасці даволі значныя. Без пуні засталася таксама днём у падобнай сітуацыі і пенсіянерка з вёскі Фарынава Полацкага раёна. Яшчэ больш сур'ёзна пацярпеў пры тушэнні веснавога палу 61-гадовы мужчына з Дубровенскага раёна, які атрымаў моцныя апёкі 36 % цела і патрапіў у бальніцу.

Сененскі раён

# Рашаючы крывавы аргумент

■ Чэслаў Якубовіч.

**Якtолькі пагаршаецца на месцах эканамічная абстаноўка, чакай неўзабаве прыбаўлення працы ў супрацоўнікаў праваахоўных органаў.**

З прыходам вясны злачынцы актывізаваліся, усё часцей сталі яны красці, рабаваць дачныя домікі, гаражы, што адчулі і жыхары Сенненскага раёна. Раней судзімы 38-гадовы беспрацоўны ў аграгарадку Янава не пасароміўся залезці ў жылы дом земляка і вынесці адтуль адзенне і прадукты харчавання. У міліцыю вымушаны быў звярнуцца і рабочы з раённага цэнтра, у якога невядомы забраўся ў прыпаркаваны аўтамабіль "Форд" і забраў аўтамагнітолу, ключы, акумулятар, інструменты і 25 літраў саляркі. Яшчэ больш жахліва, што на тым тыдні ў адной з вёсак Машканскага сельсавета зафіксавалі другое па ліку з пачатку года забойства. Там у суботні красавіцкі дзень двое мужчын забыліся, што працягваецца Вялікі пост і арганізавалі сумесную выпіўку. Як гэта часта бывае ў падобных кампаніях, неўзабаве вяскоўцы нешта паміж сабой не падзялілі і пачалі спрачацца, высвятляць адносіны на павышаных танах. Старэйшы 58-гадовы гаспадар з крымінальным мінулым не сцярпеў абраз, схапіўся за нож і ўдарыў спрытна нажом у левы бок. Гэтага аказалася дастатковым, какб на наступны дзень 43-гадовы госць памёр ад атрыманай раны брушной поласці і страўніка ў бальніцы. Праўда, і нябожчык не быў нармальным чалавекам, ён нідзе не працаваў, адседзеў у турме і не вызначаўся прымальнымі паводзінамі. Забойцу за чарговае злачынства могуць адправіць на нары на тэрмін да 15 гадоў.

# Аб самым надзённым

## ЭКАНАМІЧНЫЯ ЦЯЖКАСЦІ ПРЫМУСІЛІ ЎЛАДЫ БЕЛАРУСІ НАРЭШЦЕ ПАЙСЦІ НА СПРАШЧЭННЕ ПРАЦЭДУР ВЯДЗЕННЯ ДРОБНАГА І СЯРЭДНЯГА БІЗНЕСУ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**І вось і ў нас вынеслі на грамадскае абмеркаванне падобны пакет праектаў новых нарматыўных прававых актаў. Іх сутнасць, калі сказаць коратка, у тым, што пры адкрыцці сваёй кавярні, аўтамайстэрні, цырульні, дзелавому чалавеку неўзабаве будзе дастаткова толькі паведаміць аб сваіх намерах прадстаўнікам мясцовай улады.**

Напярэдадні светлых і радасных Велікодных святаў кіраўнік дзяржавы сёлета адправіўся ў чарговую рабочую паездку на поўдзень Беларусі. Там на Гомельшчыне, а дакладней у адным з цэнтраў айчыннай нафтазабычы, ён па традыцыі ацаніў ход веснавой сяўбы і запатрабаваў увесці на месцах рэжым "жесточайшей экономии". Прэзідэнт на сустрэчы з працаўнікамі ААТ "Рэчыцадрэў" як заўсёды выказаўся па шэрагу хвалюючых суайчыннікаў пытанняў. Беларускі лідар прызнаўся, што мы цяпер, вобразна кажучы, прыпёртыя да сценкі, але паабяцаў людзям дапамагчы зарабіць зарплату мінімум у 1 тысячу рублёў.

Перад кіраўнікамі абласцей ён таксама паставіў задачу за год добраўпарадкаваць па 2 райцэнтры, але без траты бюджэтных сродкаў. Каб гэтага дабіцца, спатрэбіцца элементарна паўсюдна правесці 3-4 суботнікі і рэгіёны стане не пазнаць. Выказаўся глава дзяржавы і па міжнародных пытаннях пасля моцнага ракетнага ўдару амерыканцаў у Сірыі, зрабіў таксама амаль што рэвалюцыйную заяву аб намерах пайсці на істотнае разняволванне беларускага бізнесу. А. Лукашэнка на гэты раз паабяцаў нашым прадпрымальнікам, як ім лёгка будзе пачаць новую справу: " Пришёл – заявление оставил, что хочешь заниматься этим делом, в налоговой зарегистрировался и пошёл работать. Все вмешательства пожарных, санстанций и прочих служб сокращены будут до минимума".

Дарэчы, хто не ведае, так зараз вядуцца справы ў большасцівілізаваных краін свету і ў нашых бліжэйшых суседзяў Польшчы, Літве, Латвіі, Эстоніі. Пра гэта пачынанне ў нас гаварылася чвэрць стагоддзя назад, калі паўстала незалежная Беларусь і трэба было выбіраць шлях далейшага развіцця эканомікі. Беларусы, як вядома, на балючыя спачатку рынкавыя рэформы не пайшлі, мы нават суседку Расію крытыкавалі за пераход да капіталізму і маем зараз каля 80 % па-ранейшаму дзяржаўнай эканомікі і застаёмся самымі беднымі ў параўнанні з тымі ж палякамі, літоўцамі і нават расіянамі, дзе наадварот ільвіную долю даброт дае цяпер прыватны сектар.

І вось і ў нас вынеслі на грамадскае абмеркаванне падобны пакет праектаў новых нарматыўных прававых актаў. Іх сутнасць, калі сказаць коратка, у тым, што пры адкрыцці сваёй кавярні, аўтамайстэрні, цырульні дзелавому чалавеку неўзабаве будзе дастаткова толькі паведаміць аб сваіх намерах прадстаўнікам мясцовай улады. Дзеючыя розныя шматлікія санітарныя, супрацьпажарныя правілы адменяць, як і планавыя праверкі, іх звядуць да мінімуму, але гаспадар сваёй справы будзе адказваць за бяспеку кліентаў. Плануецца таксама ўвесці пасаду падатковых кансультантаў, якія зоймуцца непасрэдна працай з падатковымі службамі, а механізм унясення падаткаў таксама быццам спросціць.

На грамадскае абмеркаванне гэтых ініцыятыў адвялі месяц, таксама перад гэтым у Беларусі скарацілі 41 адміністрацыйную працэдуру для бізнесу. У асяроддзі беларускіх дзелавых людзей цяпер існуюць розныя думкі, ці спрацуе гэта новая мера, альбо стане чарговай прафанацыяй адносна разнявольвання нацыянальнага бізнесу. Між тым, старшыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва У. Карагін заўважыў, што не ўсё так проста і пакет гэтых дакументаў патрабуе сур'ёзнай дапрацоўкі. Справа ў тым, што ў новых нарматыўных актах няма ні слова аб прыватызацыі, валодання актывамі, той жа зямлёй, раздзяржаўлення маёмасці.

У прадпрымальных беларусаў існуюць прэтэнзіі да гэтых дакументаў, бо захоўваецца непамерна высокі аб'ём падатковых плацяжоў, а таксама празмерны бюракратыі ў пытаннях ліцэнзавання розных відаў дзейнасці. Па іх словах, з кожнага рубля выручкі цяпер яны аддаюць дзяржаве 52-53 капейкі падаткаў, што робіць айчынную прадукцыю малаканкурэнтназдольнай. Аднак працэс пайшоў і на Нацыянальным прававым інтэрнэтпартале праекты прэзідэнцкага дэкрэта і некалькіх указаў з'явіліся, сталі даступнымі для ўсіх жадаючых. І практычна ў той самы дзень прыйшло паведамленне аб затрыманні аднаго з найбагацейшых і ўплывовых бізнесменаў краіны В. Арбузава па падазрэнні ў нявыплаце падаткаў.

Праваахоўныя органы разбяруцца, у чым ён, магчыма, вінаваты, а з цягам часу стане вядома, ці стануць рэальнасцю наспеўшыя радыкальныя крокі па вызваленні дзелавой актыўнасці беларусаў. Як падаецца, самае лепшае для кожнага будзе, не перашкаджаць яму займацца любімай справай, якую ён знайшоў для сябе. Патрэбна спыніць і канфіскацыю завозімых прадпрымальнікамі тавараў, яшчэ болей ільгот даць малым гарадам і сельскай мясцовасці, каб глыбінка актыўней развівалася і там заставалася моладзь. Безумоўна, даволі праблемны стан беларускай эканомікі вымушае грамадства пачынаць перамены і спадзявацца, што ў перспектыве наша Беларусь стане больш развітай краінай з акрэпшай эканомікай.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 27.04.17 | | | | Пятніца 28.04.17 | | | | Субота 29.04.17 | | | | Нядзеля 30.04.17 | | | | Пн.01.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +2 | +4 | +3 | +2 | 0 | +3 | +6 | +3 | +3 | +4 | +10 | +13 | +9 | +8 | +8 | +5 | +2 | +7 | +11 |
| Ціск | 745 | 745 | 744 | 747 | 749 | 750 | 750 | 750 | 747 | 744 | 741 | 742 | 742 | 744 | 748 | 752 | 754 | 756 | 754 |
| Вецер м/сек | 2 Пд | 2 Пд-У | 3 Пн | 2 Пд | 1 Пд-З | 3 Пн-У | 4 У | 4 Пн-У | 6 Пн-У | 8 У | 3 Пд-У | 5 Пд | 1 Пн-З | 4 Пд-З | 6 Пд-З | 4 З | 2 Пд | 3 Пд-У | 2 Пд-У |
| Вільготнасць | 93 | 87 | 97 | 100 | 100 | 95 | 76 | 98 | 100 | 98 | 100 | 99 | 100 | 97 | 75 | 82 | 90 | 65 | 62 |

## Дзень за днём

**Цана расійскага газу для Беларусі практычна не змянілася. А. Лукашэнка падпісаў Мытны кодэкс ЕАЭС і пакет дакументаў па развіцці еўразійскай інтэграцыі. У Беларусі ў чацвёрты раз падаражэў бензін на 1 капейку. У беларусаў будуць новыя пенсійныя пасведчанні. Расійскі “Першы канал” абвінавацію А. Лукашэнка ў русафобіі. З 2019 года грамадзяне Беларусі пачнуць атрымліваць новыя біяметрычныя ID-пашпарты. Міністэрства культуры Беларусі не прызнала БАЖ і ПЭН-цэнтр творчымі саюзамі. На сталічным вакзале пачаўся пагранічны і мытны кантроль пасажыраў цягніка Мінск-Вільня.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэс-сакратар прэзідэнта Ш. Спайсер пацвердзіў, што Д. Трамп чакае ад Расіі вяртання Крыма Украіне, толькі ў такім выпадку могуць быць добрыя адносіны з рускімі.

**Сірыя**. Магутны ракетны ўдар ЗША знішчыў авіябазу рэжыму Б. Асада ў цэнтры краіны, Д. Трамп назваў гэта адплатай за хімічную атаку на апазіцыю ў правінцыі Ідліб.

**Іран.** Аб’яднаны каардынацыйны цэнтр краіны, Расіі і ўзброеных груповак у падтрымку Б. Асада паабяцалі адказаць сілай на “новыя акты агрэсіі супраць Сірыі”.

**Расія**. Адзін з ідыёлагаў Крамля А. Праханаў прапанаваў, каб Расія нанесла ўдар па Украіне ў адказ на амерыканскую ракетную атаку ў Сірыі, паставіла ракеты ў КНДР.

**ЗША.** З-за агрэсіўных паводзін Расіі ў Сірыі Кангрэс пачаў рыхтаваць пакет новых, яшчэ больш жорсткіх санкцый , іх увядзенне моцна аслабіць рубль і дзяржбюджэт РФ.

**Егіпет.** Пасля тэрактаў з гібеллю больш 30 чалавек у дзвюх копцкіх цэрквах прэзідэнт А. Фаттах ас-Сісі ўвёш у кріане на 3 месяцы рэжым надзвычайнага становішча.

**Расія.** Палітолаг А. Арэх заявіў, што Пуцін – ужо не самы круты ў свеце, Трамп – не толькі не наш, ён яшчэ фіціля ў зад нам уставіць і клізму ў вуха, дасць моцна пад зад.

**Украіна.** Гістарычнай падзеяй не толькі для украінцаў, але і для аб’яднанай Еўропы, назваў прэзідэнт П. Парашэнка рашэнне Еўрапарламента аб бязвізавых паездках.

**Польшча.** Глава МЗС В. Вашчыкоўскі пацвердзіў, што адліга ў адносінах з Беларуссю была канцэпцыяй усяго ЕС, у выпадку ўзмацнення рэпрэсій гэту палітыку перагледзяць.

**Швецыя.** Пасля тэракту з грузавіком у цэнтры сталіцы Стакгольма, дзе забілі 4 і паранілі 10 чалавек, урад ўзмацніў кантроль за граніцамі, атакавалі раней Ніццу, Берлін, Лондан.

**ЗША.** Дзяржсакратар Р. Тыллерсан заявіў, што падтрымка Расіяй бесчалавечнага рэжыму ў Сірыі была прагназуемай, а Б. Асаду не павінна быць месца ў будучым Сірыі.

**Англія.** Амаль на 40 % вырасла колькасць брытанцаў, якія сталі звяртацца ў консульствы Францыі аб атрыманні французскага грамадзянства, а звыш 58 тысяч пашпартоў Ірландыі.

**Расія**. У выніку сутыкнення позна вечарам поезда Масква-Брэст з падмаскоўнай электрычкай траўмы атрымалі 6 грамадзян Беларусі, з іх траіх шпіталізавалі.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў даручыў ураду краіны да 2025 года перавесці казахскі алфавіт з кірыліцы на лацінку каб эфектыўна мадэрнізіраваць грамадства і сувязі са светам.

**Індыя.** У лясным запаведніку штата Утар-Прадзеш паліцыя знайшла дзяўчынку ва ўзросце 8-10 гадоў, якая жыла ў статку малпаў, не ўмела размаўляць і хадзіць па-чалавечы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст цэнтра BEROC К. Барнукова папярэдзіла, што немагчыма выканаць задачу аб зарплаце 500 $, інакш атрымаем гіперінфляцыю і дэвальвацыю ў 2018 годзе.

**Рэчыца.** Тэлеканал “Белсат” паказаў рэальную, вельмі няпростую сітуацыю ў горадзе з заробкамі і беспрацоўем, а не тое, што прадэманстравалі тут А. Лукашэнку.

**Мазыр.** Калектывы НПЗ і “Нафтана” засмуціла, што ім на перапрацоўку з Расіі яшчэ 2 гады будуць пастаўляць 18 млн. тон нафты, а яшчэ 6 млн. тон – для растаможкі.

**Мінск.** Для Расіі з яе імперскімі комплексамі, як заявіў палітолаг В. Карбалевіч, вельмі шмат значыць факт саюзных адносін з Беларуссю, таму яна пайшла на прымірэнне з намі.

**Старыя Дарогі.** Мільярдэр з Кеніі, глава групы кампаній “Самір” Наўшад Мералі пацвердзіў намер купіць у “Белінвестбанка” мясцовую аграфірму “Фалічы”.

**Івацэвічы.** КДБ Беларусі затрымаў гендырэктара ААТ “Івацэвічыдрэў” У. Шульгу за закупкі сыравіны па завышаных цэнах праз падкантрольныя замежныя кампаніі.

**Мінск.** Палітолаг А. Класкоўскі папярэдзіў, што з-за абвастрэння канфлікту РФ і ЗША, можа рабром паўстаць пытанне ўзмацнення расійскай ваеннай прысутнасці ў Беларусі.

**Брэст.** Дэлегацыя Паветрана-дэсантных войск Расіі наведала 38-ю гвардзейскую брыгаду сіл спецаперацый Беларусі для падрыхтоўкі вучэнняў “Славянскае братэрства-2017”.

**Бабруйск.** Арышты актывістаў ваенна-спартыўнага клуба “Патрыёт”, як заявіла публіцыст С. Калінкіна, паказалі, дзе на самой справе засела “5-я калона” і ў чыіх інтарэсах дзейнічае.

**Гомель.** Журналістку-фрылансера тэлеканала “Белсат” Л. Шчыракову суд пакараў трымя штрафамі за нібыта незаконны выраб прадукцыі СМІ, міліцыя прыгразіла забраць яе сына.

**Пінск.** Суд пакараў 83-гадовага пенсіянера, экс-дэпутата гарсавета І. Жука штрафам 230 рублёў, ён чакаў жонку ля аптэкі, а пабач пачаўся несанкцыянаваны мітынг “тунеядцев”.

**Мінск.** Упершыню ў краіне фармацэўтычная кампания “Фармін” разам з партнёрамі ў Малайзіі пачала выпускаць беларускія прэзервативы пяці відаў пад брэндам “Indigo”.

**Баранавічы.** Па прыгавору суда 2 гады турмы атрымала 25-гадовая рабочая, якая заразіла свайго хлопца ВІЧ, ведаючы, што яна з’яўляецца носьбітам невылечнага віруса СНІД.

**Гомель.** Вечарам на вачах у маці 2-гадовы хлопчык гуляў на ложку з паветраным шарыкам і праглынуў яго, дзіця, 3-е ў сям’і, задыхнулася і трагічна загінула.

**Жодзіна.** У мясцовым ізалятары пасля 15 сутак арышту за абарону Курапат застаўся сядзець на 1,5 года актывіст Д. Паліенка, яго суд пазбавіў адтэрміноўкі прысуду 2016 г.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Кампанія з Індыі NATCO дапаможа на базе медуніверсітэта стварыць сучасную лабараторыю малога хімічнага сінтэзу медпрэпаратаў і навучанне яе супрацоўнікаў.

**Мёры.** Камбікормавы завод аднавіў у сваёй падсобнай гаспадарцы ферму па адкорме першых 65 бычкоў, завадчане забралі жывёлу ў лік пагашэння даўгоў гаспадарак краю.

**Полацк.** Міністр інфармацыі Беларусі Л. Ананіч пацвердзіла, што ў горадзе 1-3 верасня ў новым фармаце пройдзе чарговае свята – Дзень беларускага пісьменства.

**Віцебск.** Абласны суд пакінуў у сіле рашэнне калег з Оршы аб затрыманні і арышце афіцыйна акрэдытаванага ў краіне карэспандэнта радыё “Свабода” Галіны Абакунчык.

**Шуміліна.** Па тэлефоннай просьбе махляра 26-гадовая касір банка перавяла за мяжу буйную суму грошай, які патлумачыў гэта праверкай тэхнічнага забеспячэння.

**Орша.** Ля чыгуначнага вакзала адбыўся пажар у часовай царкве Растава Хрыстовага, агонь пашкодзіў купал і ўнутраную аддзелку храма, закапціў сцены і маёмасць.

**Гарадок.** Райаддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу супраць 24-гадовага жыхара гарпасёлка Язерышча за стральбу з пнеўматычнага пісталета па людзях.

**Дуброўна.** Раніцай на палігоне цвёрдых бытавых адыходаў ля райцэнтра знайшлі абгарэлы труп, спецыялісты пачалі высвятленне полу і асобы загінуўшага чалавека.

**Чашнікі.** Ад адчаю жыхары вёскі Стражэвічы паскардзіліся ў аблвыканкам на тое, што паўгода назад райпо закрыла іх магазін і ніяк не можа знайсці сюды новага прадаўца.

**Сянно.** На беразе возера ў райцэнтры работнікі Багушэўскага лясгаса заклалі дэндрапарк на плошчы 1,5 га, больш 500 гектараў лесу пасадзілі ў вобласці ў рамках Тыдня лесу.

**Полацк.** Днём падчас выпальвання сухой травы і смецця ў вёсцы Фарынава ў 78-гадовай пенсіянеркі згарэла пуня, да прыезду пажарных з агнём змагаліся работнікі лясгаса.

**Глыбокае.** Вечарам у нядзелю ў райцэнтры загарэўся драўляны жылы дом, на пажары загінуў 49-гадовы слесар Глыбоцкага МКК, які жыў адзін, не піў і не курыў.

**Паставы.** У дзяржаўным каледжы групе найбольш заслужаных ветэранаў і родным памерлых выкладчыкаў урачыста ўручылі сертыфікаты аб занясенні ў Кнігу гонару.

**Віцебск.** Раней на дзень, у панядзелак 10 ліпеня пачнуцца імпрэзы XXVI Міжнароднага фестывалю “Славянскі базар” з канцэрта спявачкі Зары, а праграма завершыцца 19 ліпеня.

**Орша.** Пасля футбольнага матча чэмпіянату Беларусі з “Хваляй” (Пінск) аршанец У. Знак на полі стадыёна зрабіў прапанову стварыць сям’ю сваёй дзяўчыне Рэгіне.

*Служба інфармацыі “ВГ” (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Чаму беларусы не ставяць помнікі на роднай мове?

**25 красавіка ў гэтым годзе беларусы адзначаюць Радаўніцу. Свята гэта тыпова беларускае, але вось на нашых могілках вельмі рэдка сустрэнеш беларускую мову. На помніках надпісы або па-польску, або па-руску. Мы пацікавіліся ў нашых чытачоў, чаму так адбываецца.**

**■ Зміцер Лупач, Леанід Юрык**



**Паліна Тупека, Мінск:**

– Нашы бабулькі ў каталіцкіх вёсках, відаць, з дзяцінства прывыклі да польскай мовы, і гэта ў іх, можна сказаць, у крыві засела. А моладзь... Яна збольшага лічыць рускую мову сваёй роднай. А яшчэ я лічу, што беларусы вельмі баяцца чым-небудзь выдзяляцца. Бо калі ты выдзяляешся з натоўпу, то баішся выглядаць не такім, як усе.



**Віктар Жаваранак, в. Хралы Глыбоцкага р-на:**

– Не ведаю нават. Я, напрыклад, па сваёй дачцэ пабеларуску паставіў. І яшчэ адзін беларускамоўны помнік на нашых могілках ёсць. І хіба ўсё! Гэта наша даўняя праблема. Бо атрымоўваецца, калі ты на беларускай мове напісаў, то ты – нацыяналіст.

**Людміла Сяменас, Паставы:**

– Дык у нас і не гавораць ужо па-беларуску. Вакол рускамоўны асяродак, і людзі ідуць па пратоптанай сцежцы. І каб з яе сысці, трэба, каб нейкая выгада была, ці каб свядомасць прабудзілася. А што трэба зрабіць, каб гэта свядомасць абудзілася, нацыянальны гонар каб быў, я нават не ведаю.



**Люцыян Шчасны, в. Хрыстова Пастаўскага р-на:**

– Дык нас, як асобнай нацыі, наогул раней і не было. Для нашых суседзяў – ні для Расіі, ні для Польшчы – мы не існавалі як асобны народ. Нам убівалі ў галовы, што калі ты католік, то паляк, калі праваслаўны – то рускі. У нас шмат хто палякам пісаўся, і я таксама. А беларускую мову лічылі вясковай, простай, таму мы яе і саромеліся. Вось і атрымаліся з нас Іваны, што



сваіх каранёў родных не памятаюць.

– Відаць, так ужо гістарычна склалася. Наша мова колькі ж часу прыцясналася. Таму адсюль пэўна ўсё гэта і пайшло. А каб гэта змяніць, трэба са школы пачынаць, а іх колькасць зараз скарачаецца. Ды і на дзяржаўным узроўні павінна нешта мяняцца ў стаўленні да мовы. Але ў першую чаргу трэба пачынаць з сябе. Бо мы даём прыклад сваім дзецям. Таму мы і павінны быць тым першым звяном.



**Надзея Вайцюль, в. Каўшэлева Шаркоўшчынскага р-на:**

**Язэп Квач, в. Жукоўшчына Шаркоўшчынскага р-на:**

– Тут усё ад чалавека залежыць. Я вось бабульку даглядаў, яна памерла, то я помнік па-беларуску паставіў. І ў Квачах па родных я пабеларуску ставіў. А чаму больш помнікаў няма? Відаць няма яшчэ ў нас сапраўднай незалежнасці, дык і помнікаў няма беларускіх.



**Уладзімір Скрабатун**

# На 40-гадовы юбілей Глыбоцкай СШ№3 ушанавалі памяць паэта і колішняга дырэктара Віталя Гарановіча

**Глыбоцкай сярэдняй школе №3 – 40 гадоў! Больш за дваццаць гадоў школай кіраваў – 1983 па 2004 год – выдатнік народнай асветы, паэт і дырэктар Віталь Рыгоравіч Гарановіч.**

У часы Віталя Гарановіча, шляхам натуральнага ўбывання выпускных рускамоўных класаў, Глыбоцкая СШ №3 паступова цалкам стала беларускай школай.

Калі сказаць, што сярод выпускнікоў школы стала шмат выбітных асобаў, то гэта значыць, нічога не сказаць. Натуральна, што гэта зусім асобная тэма, але цяпер ва ўсіх на слыху – астраном Віктар Малышчыц і спявак, гітарыст Арцём Лук'яненка. Здымкамі Малышчыца – зорнага неба, прыгажосці беларускай прыроды, велічы нашых замкаў – захапляюцца сёння наведвальнікі розных сайтаў. Арцём Лук'яненка едзе на Еўрабачанне! Пажадаем яму і Ксеніі Жук годна выступіць у Кіеве!

Віктар і Арцём – вядомыя ў Беларусі папулярызатары роднай мовы! Дык з якой школы? З трэцяй, глыбоцкай!

Трэба адзначыць, што пры Віталю Гарановічу Глыбоцкая СШ№3 была вядомая далёка за межамі Беларусі! Таму, што беларуская! Памятаецца, у 2001-м, беларускія эмігранты ў ЗША, усцешаныя гэтым фактам, сабралі грашовыя сродкі для СШ№3 на закуп камп'ютараў. З гэтай нагоды ў школу прыязджала дзячка беларускай эміграцыі Ала Орса-Рамана. Яна тады пажадала сустрэцца і з калектывам, які рыхтуе газету "Вольнае Глыбокае".

У мінулую суботу на ўрачыстасць з нагоды юбілею школы і ўшанавання памяці паэта і колішняга дырэктара школы Віталя Гарановіча мемарыяльнай шыльдай на будынку школы прыйшлі літаратары Алесь Жыгуноў, Уладзімір Сауліч, Анатоль Зэкаў. Апошні па дарозе на Глыбокае завітаў на магілу Віталя Гарановіча на Маладзечаншчыне, прачытаў там свой новы верш, які прысвяціў яго памяці, гэты ж верш ён прачытаў і на ўрачыстасці ў Глыбоцкай СШ№3.

Трэба аддаць належнае Галіне Уладзіміраўне Унуковіч, старшыні Глыбоцкага раённага савета дэпутатаў і Таццяне Вячаславаўне Гаўрылавай, кіраўніку Аддзела адукацыі, спорту і турызму Глыбоцкага РВК, якія заўсёды, калі прысутнічаюць на культурніцкіх мерапрыемствах у раёне, прамаўляць на добрай беларускай мове. З удзелам Галіны Унуковіч і была адкрытая мемарыяльная шыльда на сцяне, пры ўваходзе ў школу, прысвечаная памяці паэта, педагога, грамадскага дзеяча Віталя Гарановіча.

Неяк аўтар гэтых радкоў задаў Віталю Рыгоравічу правакацыйнае пытанне: "Як Вам удаецца трымаць школу беларускай? Не наязджаюць?"

– *Як удаецца?*– адказвае Віталь Рыгоравіч. – *Неяк вярнуўся з адпачынку… Прыносяць мне бацькі пяць заяваў на рускае навучанне іх дзяцей… Пяць! Я дастаю з шуфляды вялізны-вялізны стос заяваў бацькоў на беларускае навучанне! – Бачыце? Ну й перапісалі бацькі заявы на беларускае навучанне без усялякага прымусу.*

Віталь Рыгоравіч як паэт, грамадзянін, патрыёт краіны ведаў і разумеў, што без шанавання роднай мовы, ведання сваёй гісторыі, павагі да нацыянальнай культуры такая краіна, як Беларусь, паўнавартаснай дзяржавай ніколі не стане.

У 2004 годзе Віталя Гарановіча, нечакана, пераводзяць накшталт на падвышэнне – узначаліць раённы прафсаюз работнікаў адукацыі і навукі. Усіх глыбачанаў такое падвышэнне здзівіла! Праўда, сам Віталь Рыгоравіч, адказваючы на няёмкае пытанне, ніколі не сцвярджаў, што яго знялі з пасады дырэктара школы і перавялі на іншую працу. Ён і аўтару гэтых радкоў казаў: "Прапанавалі падвышэнне – я пагадзіўся!".

Толькі які вынік такога "падвышэння"? У двух беларускамоўных садках змяніліся загадчыкі, у школе – дырэктар. І ўсе тры ўстановы адукацыі, раптам, пераводзяцца на мову ўсходняга суседа. Ці не "падвышэнне" і перажыванні сталі прычынай хваробы і заўчаснай смерці Віталя Гарановіча ў 2012 годзе...


**Урачыстае мерапрыемства ў Глыбоцкай СШ№3. Уладзімір Сауліч, драматург і журналіст згадвае аб сваіх творчых і сяброўскіх дачыненнях з Віталем Гарановічам. 22.04.2017 г.** *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Урачысты момант адкрыцця мемарыяльнай шыльды, прысвечанай памяці паэта і дырэктара СШ№3 Віталя Гарановіча. 22.04.2017 г.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

**Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# Не чакайце цяпер літасці!

## Ніводны з рыбакоў, які ажыццяўляе лоўлю рыбы з ляжачым побач з ім на беразе смеццем, не сыдзе ад адказнасці!

**Штогод на ўсёй тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ужо не першы год праводзіцца акцыя "Чысты вадаём". Не выключэннем стаў і красавік 2017 года. Па ўсёй рэспубліцы тысячы грамадзян удзельнічалі ва ўборцы і ачыстцы вадаёмаў ад смецця.**

Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету сумесна з працаўнікамі раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, працаўнікамі Глыбоцкага раённага таварыства паляўнічых і рыбаловаў 19 красавіка актыўна прынялі ўдзел ва ўборцы берагавой лініі возера Белае і Вялікае. З берагоў азёр вывезлі больш за 30 мяшкоў рознага пабытавага смецця, пластыкавыя і шкляныя бутэлькі, пакеты ад рыбалоўных прыкормак, пластыкавыя стаканчыкі, дзіцячыя падгузнікі, хоць год назад азёры былі таксама прыбраныя. Асабліва шмат пабытавага смецця знаходзілася ў месцах рыбнай лоўлі, так званыя рыбаловы забруджваюць берагі вадаёмаў больш за ўсіх, банкі з-пад насадак, ПЭТ-бутэлькі, пакеты ад прыкормак, бутэлькі ад спіртнога, бітае шкло ў месцах адпачынку грамадзян, гэта далёка не ўвесь пералік пакінутага імі смецця.

Праз розныя сродкі масавай інфармацыі, у асабістых гутарках з рыбаловамі-аматарамі супрацоўнікі інспекцыі запрашалі ўсіх ахвотнікаў добраахвотна паўдзельнічаць у акцыі, навесці парадак на нашых прыгожых вадаёмах. На жаль, усё гэта марна, як і мінулыя гады ніводзін грамадзянін не прыйшоў на ўборку смецця, затое ў гэты дзень, нягледзячы на дрэннае надвор'е, на азёрах горада лавілі рыбу больш за 20 чалавек. Толькі за адзін дзень 19 красавіка ў інспекцыю паступіла больш за 30 званкоў з пытаннем: "А калі можна лавіць шчупака?" Але ніводны не спытаў, дзе можна паўдзельнічаць ва ўборцы вадаёмаў. Вядома, для таго і інспекцыя, каб грамадзяне маглі атрымаць адказы на хвалюючыя іх пытанні, але ўсе пытанні толькі ў адзін бок.


**Акцыя "Чысты вадаём" Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.** *Фота rgooboor.by*

Хай адсутнасць жадання ў так званых рыбаловаў прыбраць смецце застанецца на іх сумленні, але хацелася б сказаць, што час дамаўленняў, перакананняў і растлумачэнняў прайшоў. Інспектарскі састаў Глыбоцкай міжрайінспекцыі паставіцца да рыбаловаў-аматараў гэтак жа, як і яны да ўборкі смецця. Ніводны з рыбакоў, які ажыццяўляе лоўлю рыбы з ляжачым побач з ім на беразе смеццем, не сыдзе ад адказнасці, час дамаўленняў скончыўся.

**Пункт 98, абзац 6 абвяшчае:**

Рыбаловы, якія здзяйсняюць аматарскае рыбалоўства, абавязаны:

падтрымліваць належны санітарны стан рыбалоўных угоддзяў, не пакідаць на іх берагах, а таксама на лёдзе смецце і іншыя адыходы, не дапушчаць засмечванне і забруджванне рыбалоўных угоддзяў іншым чынам.

Гэта значыць, што рыбалоў, прыйшоўшы на месца лоўлі рыбы, абавязаны **прыбраць усё змешчанае ў месцы лоўлі смецце не залежна ад таго, кім яно было пакінута,** інакш ён можа быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці,

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету чарговы раз просіць грамадзян строга выконваць прыродаахоўнае заканадаўства, любіць і берагчы нашу прыроду, не быць абыякавымі да засмечвання лясоў, браканьерства.

**Настае час выездаў на прыроду. Паважаныя грамадзяне, вазьміце з сабой мяшкі для смецця, зрабіце добрую справу, прыбярыце хоць бы за сабой. Дзякуй.**

Тэлефоны Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 5-59-80 "гарачая лінія" - кругласутачна, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78 (мтс).



**Фадзей Шымуковіч,** *педагог, пенсіянер, г. Дзісна*

# Забытая армія Беларусі

**“Не ісціны навукі цяжкія, а расчыстка чалавечай свядомасці ад усяго спадчыннага хламу, ад усяго аселага глею, ад прымання ненатуральнага за натуральнае, незразумелага за зразумелае”.**

*А.І.Герцэн*

**27** ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверынітэце. Пасля правалу жнівеньскага путча 1991 года Вярхоўны Савет ужо 25 жніўня прыняў рашэнне аб прыданні гэтай Дэкларацыі статуса Канстытуцыйнага закона. У той жа дзень былі прыняты пастановы аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці рэспублікі і аб прыпыненні дзейнасці КПБ, 19 верасня 1991 года БССР была перайменавана ў Рэспубліку Беларусь, прыняты новы герб і сцяг, пазней – новая Канстытуцыя і грамадзянскі пашпарт.

8 снежня 1991 года у выніку Белавежскіх пагадненняў СССР спыніў сваё існаванне. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь 10 снежня 1991 года ратыфікаваў пагадненне аб утварэнні СНГ і дэнансіраваў Саюзную дамову 1922 года.

**Н**а тэрыторыі цяперашняй Рэспублікі Беларусь пражывалі нашы продкі, якія ўваходзілі ў тагачасныя дзяржаўныя фарміраванні. Адно з іх Вялікае Княства Літоўскае (ВКЛ). У 1245 годзе Міндоўг, князь, які яшчэ да 1236 года ўстанавіў адзіную ўладу ў “летапіснай Літве” (альбо большай яе часткі). У той жа 1236 год на чале аб’ядналага войска літвінаў, жамойтаў і земгалаў Міндоўг разбіў войска Лівонскага ордэна ў бітве пры Сауле (зараз Шаўляй). У 1245 годзе ён дапамог князю Даніілу ў барацьбе за Галіцка-Валынскі прэстол, далучыў да Літвы Ноўгарад, у Полацку пасадзіў свайго стаўленіка. Менавіта гэтыя дзеянні сталі фактычна пачаткам ВКЛ. Таму за пункт адліку ўтварэння ВКЛ патрэбна лічыць 1246 год.

У 1569г ВКЛ па праву канфедэрацыі сумесна з каралеўствам Польшчы ўтварылі дзяржаву Рэчы Паспалітай. Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай (1775, 1793, 1795 гг) землі ВКЛ увайшлі ў склад Расіі як Заходні Край.

Савецкую Беларусь абвяшчалі тройчы. Першы раз у Смаленску, у ноч з 31 снежня 1918 года на 1 студзеня 1919 года, пад назвай Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусь (ССРБ). Другі раз – 28 лютага 1919 года пад назвай Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Літвы і Беларусі (ЛітБелССР). І трэці раз – 12 ліпеня 1920 года, пасля таго, калі польскія войскі пад націскам Чырвонай арміі пакінулі Мінск, пад назвай Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка (БССР). Але кожны раз, незалежна ад назвы, яна не з’яўлялася самастойнай суверэннай дзяржавай, а ўваходзіла ў склад Расійскай Федэрацыі і, натуральна, свайго войска, сваёй арміі не мела.

Калі лепш паглядзець у мінулае, то нашым продкам нават вельмі часта даводзілася ў крывавых бітвах абараняць сваю незалежнасць. Ніхто не нападаў на ВКЛ больш, чым Расія: 1368-1372гг, 1406-1408гг, 1445-1449гг, 1492-1494гг, 1500-1503гг, 1507-1508гг, 1512-1522гг, 1534-1537гг, 1563-1582гг, 1609-1618гг, 1632-1634гг, 1654-1667гг. За 300 каляндарных год адбылося 12 войнаў, заняўшых у суме 72 гады!



**Казімір Нестар Сапега (1754-1798)**



**Якуб Ясінскі (1759 - 1794)**

**У** 1528 годзе быў праведзены перапіс войска ВКЛ. З гэтага часу кожны рэзервіст і прызыўнік ведаў, што ён залічаны як ваеннаслужачы, а гэта стварала аснову для нараджэння нацыі і яе ўзброеных сілаў. Так што беларуская армія нарадзілася ў 1528 годзе. Праіснавала да 1795 года, да трэцяга падзелу Рэчы паспалітай, 267 год.

**В**ыдавецтва “Беларуская энцыклапедыя імя П.Броўкі” ў 2011 годзе выпусціла кнігу “Ваенная школа Беларусі: традыцыі і сучаснасць”. Аўтар піша: “Беларускія ўзброеныя сілы, абапіраючыся на больш чым 300-гадовы досвед айчыннай і расійскай ваеннай школы, маюць права лічыць сябе прадаўжальнікамі багацейшых традыцый, навучання і падрыхтоўкі афіцэрскіх кадраў”. Але 300 год назад мы не былі ў складзе Расіі, наадварот, ваявалі з ёй! Напомню паўторна: з 1609 па 1618 гг, з 1632 па 1634 гг, з 1654 па 1667 гг.



**Кукарда на шапцы палкоўніка Міхала Тышкевіча, камандзіра 17 палка літоўскіх уланаў у войску Напалеона.**

На афіцыйным сайце МЗСа Рэспублікі Беларусь канцлер ВКЛ Леў Сапега названы “вялікім сынам беларускага народа” і “стваральнікам беларускай дыпламатыі”. Аднак нашы ваенныя не хочуць весці ваенную гісторыю Беларусі ад “нейкіх Сапег” і таму не ведаюць, што Казімір Нестар Сапега (1754-1798) з’яўляўся начальнікам Інжынернага корпуса ВКЛ, створанага ў 1789 годзе. Са студзеня 1793 года яго змяніў на гэтым посце другі беларус – інжынер-палкоўнік, затым інжынер-генерал Якуб Ясінскі (1761-1794), адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 года ВКЛ. Так што, з улікам мінулага, днём нараджэння інжынерных войскаў можна лічыць 1789 год.

**П**атрэбна ўлічыць тыя абставіны, што ў Статутах ВКЛ, па якіх жылі нашы продкі з XVI века да 1840 года, наогул не было тэрміна “Беларусь” і “беларусы” – толькі “Літва” і “літвіны”.

На жаль, я не змог знайсці дакументаў кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, якія адкрывалі б тайну стварэння нашых Узброеных Сіл РБ. На мой запыт у ваенкамат адказалі, што ў іх такіх дакументаў няма. Па ідэі, гэта ў 1991 годзе.

**З**аходняя частка сучаснай Беларусі, у т.л. і горад Мінск, былі акупіраваны немцамі. 16 лістапада 1918 года бальшавікі, стварыўшы Заходні фронт, і пасля эвакуацыі германскіх войскаў у снежні 1918 года занялі горад Мінск, 5 студзеня 1919 года – Вільню. Да лютага 1919 года ў асобных месцах выйшлі да ракі Нёман. Польскія гісторыкі пішуць аб “нападзе” бальшавікоў на “крэсы ўсходні” так, як быццам яны належалі Польшчы. І тыя, і другія абманваюць. Праўдзівы англійскі гісторык Норман Дэвіс, які ў сваёй кнізе “Белый орёл и красная звезда” піша, што ў 1918 годзе гэтыя землі не належалі ні Польшчы, ні Расіі. Калі гэтыя крэсы і належалі каму-небудзь, то толькі мясцоваму насельніцтву.

**К**іруючыся савецкай традыцыяй, Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №520 ад 16.10.2007 года зацверджаны юбілейны медаль “90 год органам дзяржаўнай бяспекі Беларусі”. Цікава, чым займаліся гэтыя органы бяспекі не існаваўшай дзяржавы, на тэрыторыі якой знаходзіліся нямецкія падраздзяленні, часці і злучэнні? Хто можа назваць хоць аднаго героя гэтага фарміравання дзяржбяспекі?

**Т**аксама па гэтай прычыне Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №678 ад 28.12.2007 года зацверджаны юбілейны медаль “90 год Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь”. Логіка быццам ёсць – адлік ідзе ад стварэння Чырвонай Арміі ў 1918 годзе і ад зацвярджэння Усерасійскай Надзвычайнай Камісіі ў той жа РСФСР у 1917 годзе. Але пры чым тут Беларусь? Яшчэ няма дзяржавы, няма ўраду, а мы падтасоўваем чужыя Загады, быццам свае?!

**А** гэта наогул смешны анонсус! Беларускія афіцэры інжынерных войскаў узнагароджваюцца памятным знакам “300-годдзе інжынерным войскам Рэспублікі Беларусь”. Рашыць гэты рэбус прапаную чытачу. Асабліва звярніце ўвагу на тое, ці былі самастойнымі войскі ў Беларусі?

# Наваполацк стане культурнай сталіцай Беларусі 2018 года

**Горад Наваполацк стане культурнай сталіцай 2018 года. Такое рашэнне прынята сёння на калегіі Міністэрства культуры Беларусі, паведамляе БелТА.**

Датай заснавання Наваполацка лічыцца 7 чэрвеня 1958 года. У наступным годзе горад адзначыць 60-годдзе. Сучасны Наваполацк налічвае 108 тыс. жыхароў, сярод якіх амаль 40 працэнтаў моладзі.

У горадзе прыкладаюцца значныя намаганні да развіцця і папулярызацыі дасягненняў беларускай культуры, удзяляецца вялікая ўвага развіццю сацыяльнай сферы. Выхаванцамі гурткоў, студый, школ мастацтваў з’яўляюцца больш за 4 тыс. навапалачан. Канцэртна-асветную дзейнасць вядуць 34 творчыя калектывы са званнем “заслужаны”, “народны”, “узорны аматарскі”.

Наваполацк становіцца пляцоўкай для правядзення многіх буйных конкурсаў, фестываляў, выставак і форумаў розных узроўняў, якія збіраюць удзельнікаў і гасцей з усіх куткоў Беларусі, а таксама замежных краін.

Вядучая роля ў выхаванні духоўнасці чалавека, нематэрыяльных каштоўнасных якасцей адводзіцца арганізацыям культуры і адукацыі. У іх ліку Цэнтр культуры Наваполацка, у склад якога ўваходзіць цэнтр рамёстваў і традыцыйнай культуры. Пастаяннымі ўдзельнікамі буйнейшых гарадскіх мерапрыемстваў з’яўляюцца творчыя калектывы Палаца культуры ААТ “Нафтан”, на базе якога працуюць больш за 40 творчых калектываў і ў якіх заняты каля 1 тыс. дзяцей і дарослых. Значны ўклад у правядзенне культурна-масавых мерапрыемстваў уносіць студэнцкі клуб Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Актыўным дзеючым цэнтрам музычнай культуры горада выступае Дзіцячая школа мастацтваў нумар 1. Дзіцячая мастацкая школа імя І.Ф. Хруцкага рэалізуе вучэбныя праграмы па 14 напрамках у 17 студыях выяўленчага мастацтва, а дзіцячая школа мастацтваў нумар 3 вядзе падрыхтоўку на трох аддзяленнях і выхоўвае больш за 200 дзяцей. На базе Наваполацкага дзяржаўнага музычнага каледжа працуюць 12 вучэбна-канцэртных калектываў. У фондах Музея гісторыі і культуры Наваполацка налічваецца больш за 14 тыс. прадметаў асноўнага фонду. Важкі культурны рэсурс горада - сем публічных бібліятэк, аб’яднаных у цэнтралізаваную бібліятэчную сістэму.



У 2011 годзе Наваполацк, першы ў Беларусі, удастоены ганаровага звання “Горад, дружалюбны дзецям”, што з’яўляецца высокай ацэнкай дзейнасці горада на шляху рэалізацыі Канвенцыі аб правах дзіцяці, а ў 2016 годзе ў рэспубліканскім конкурсе “Горад культуры ў Год культуры” стаў пераможцам у намінацыі “Лепшы горад абласнога падпарадкавання”.

***БелТА.***

■ Нікіціна Е.І.,
памочнік урача-эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ

# Роля імунізацыі ў прафілактыцы інфекцыйных захворванняў

**У мэтах аховы здароўя насельніцтва ў нашай краіне прыняты Закон Рэспублікі Беларусь ад 07 студзеня 2012 года "Аб санітарна-эпідэміялагічным дабрабыце насельніцтва". Паводле гэтага закона ў Беларусі дзейнічае Нацыянальны каляндар прафілактычных прышчэпак.**

**Што ж уяўляе ў сабе паняцце "прафілактычныя прышчэпкі"?**

Прафілактычныя прышчэпкі – самы эфектыўны і эканамічна выгодны сродак абароны ад інфекцыйных захворванняў. Мэта прышчэпак – фармаванне імунітэту (неўспрымальнасці) да хвароб. Механізм іх дзеяння просты: у арганізм чалавека ўводзяць прэпарат, які ўтрымоўвае антыген узбуджальніка ў вельмі малых дозах. Пасля чаго імунная сістэма чалавека выпрацоўвае адмысловыя рэчывы (антыцелы) супраць дадзенага ўзбуджальніка. І калі арганізм сустракаецца з гэтым узбуджальнікам інфекцыі, то выпрацаваная абарона перашкаджае развіццю хваробы ці змякчае цяжар яе плыні.

Неабходна разумець, што імунітэт, які фармуецца пры ўводзінах вакцын, адрозніваецца ў залежнасці ад віда вакцыны. У адказ на ўводзіны забітай вакцыны (напрыклад, коклюшнай) ці абясшкоджанага таксіну (напрыклад, дыфтэрыйнага ці стаўбняковага) фармуецца няўстойлівы імунітэт (так, як вакцынавыя мікраарганізмы не размножваюцца ў арганізме), таму, каб выпрацоўка антыцелаў была паўнавартаснай і працяглай іх даводзіцца ўводзіць паўторна. Жывыя саслабленыя вакцыны (супраць сухот, адзёру (кори), паратыту, поліміеліту, краснухі) дзейнічаюць інакш: вакцынавыя мікраарганізмы размнажаюцца ў арганізме чалавека (пры гэтым не ўзнікае клінічных праяў, характэрных для дадзенага інфекцыйнага захворвання), у адказ на ўводзіны вакцынавых мікраарганізмаў выпрацоўваецца ў арганізме ўстойлівы, часта пажыццёвы імунітэт, гэта значыць неўспрымальнасць.

У 1769 годзе англійскі ўрач Эдуард Джэннер ужыў прынцып папярэджання падобнага падобным. Джэннер заўважыў, што сялянкі, якія даглядаюць за каровамі, даволі часта заражаюцца ад жывёл так званай "каровінай воспай", якая працякае ў людзей лёгка, практычна не пакідаючы слядоў. Але потым, у перыяды эпідэмій, гэтыя людзі ніколі не хварэлі натуральнай чалавечай воспай. У якасці эксперыменту васьмігадоваму хлопчыку была прышчэплена каровіна воспа, затым, праз 1,5 месяца дзіцяці заразілі натуральнай воспай. Заражэння не адбылося. Такім чынам была распрацавана і ўведзена ў практыку вакцынапрафілактыка воспы.

Праз 100 гадоў французскі навуковец Луі Пастэр здзейсніў асаблівы прарыў у вакцынапрафілактыцы. Ім былі распрацаваныя і сталі паспяхова ўжывацца вакцыны супраць сібірскай язвы, шаленства.

Цяпер жа вакцынацыя ва ўсім свеце прызнана ідэальным сродкам прафілактыкі, стрымлівання і ліквідацыі інфекцыйных захворванняў. Яна займае прыярытэтнае становішча сярод дзяржаўных мер, накіраваных на зніжэнне захворвання і смяротнасці ад інфекцыйных захворванняў.

Вакцыны дазволілі чалавецтву дасягнуць неверагодных вынікаў у барацьбе з інфекцыйнымі хваробамі. У свеце цалкам ліквідавана натуральная воспа – захворванне, якое штогод знішчала жыцці мільёнаў чалавек. Практычна знік поліяміеліт, працягваецца глабальная ліквідацыя адзёру (кори). У сотні і нават тысячы разоў зніжана захворванне дыфтэрыяй, краснухай, коклюшам, эпідэмічным паратытам, вірусным гепатытам В. І шмат якімі іншымі небяспечнымі інфекцыйнымі захворваннямі.

На сённяшні дзень усе прафілактычныя прышчэпкі класіфікуюцца на: планавыя і праводжаныя па эпідэміялагічных паказаннях.

Планавыя прышчэпкі праводзяцца дзецям і дарослым у вызначаны час і ў пэўным узросце. Сярод планавых прышчэпак ёсць абавязковыя для ўсіх – яны ўваходзяць у Нацыянальны каляндар (супраць сухот, поліяміеліту, дыфтэрыі, слупняка, коклюшу, адзёру, эпідэмічнага паратыту, краснухі, вірусная гепатыту В, а таксама супраць пнеўмакокавай і гемафільнай інфекцый, групу – кантынгентам рызыкі).

Вакцынацыю па эпідэміялагічных паказаннях робяць людзям, змешчаным у рэгіёне, у якім маецца небяспека ўспышкі небяспечнага інфекцыйнага захворвання (супраць вірусная гепатыту А, шаленства, кляшчовага энцэфаліту, бруцэлёзу, туляроміі, сібірскай язвы і шэрагу іншых захворванняў).

Правядзенне прафілактычных прышчэпак вельмі важна як для дзяцей, так і для дарослых. Толькі гэта мера з'яўляецца адзіным сродкам прафілактыкі такіх хвароб, якія не паддаюцца лячэнню ці паддаюцца яму вельмі цяжка (вірусны гепатыт В, дыфтэрыя, слупняк, коклюш і інш.). Для маленькага дзіцяці прафілактычныя прышчэпкі асабліва важныя, бо яго арганізм вельмі ўразлівы перад рознымі інфекцыямі. Калі мама была своечасова прышчэпленая ці ўжо перахварэла якім-небудзь захворваннем – то ў першыя месяцы жыцця дзіцяці яшчэ могуць абараняць матчыны антыцелы, але потым абарона слабее – і тут ужо не абысціся без прафілактычнай прышчэпкі. Таму вакцынацыю неабходна пачынаць з самага ранняга ўзросту ў адпаведнасці з Нацыянальным календаром прышчэпак.

Калі ўсё ж у Вас узнікаюць сумневы ў неабходнасці правядзення прафілактычных прышчэпак, не спяшайцеся падпісваць адмову. Для пачатку пракансультуйцеся з урачом, збярыце поўную інфармацыю пра небяспеку інфекцыйнага захворвання, неабходнасці правядзення прышчэпкі, наступствах адмовы ад яе. Не забывайце, што менавіта Вы несяце адказнасць за сваё здароўе і здароўе Вашага дзіцяці.

**Беражыце сябе і бывайце здаровы!**



■ А.І.Гігола,
начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС.

# Што рабіць, калі ў Вашай сям'і ўжо мае месца гвалт?

**З мэтай уцягвання шырокіх пластоў насельніцтва ў аказанне дапамогі і садзейнічанні дзяржаўным органам у рашэнні праблем гвалту ў сям'і, з ужываннем да асобаў асацыяльных паводзін мер індывідуальнай прафілактыкі правапарушэнняў з 17 па 28 красавіка 2017 гады на тэрыторыі Глыбоцкага раёна праводзіцца рэспубліканская прафілактычная акцыя "Дом без гвалту!".**

Першым чынам, хатні гвалт – гэта паўтаральны з павелічэннем чашчыні цыкл: фізічнай, славеснай, духоўнай і эканамічнай абразы з мэтай кантролю, запалохвання, выклікання пачуцця страху адным членам сям'і іншаму ці іншым; сітуацыя, у якіх адзін чалавек кантралюе ці спрабуе кантраляваць паводзіны і пачуцці іншага.

Як не стаць ахвярай хатняга тырана? Што рабіць, калі ў Вашай сям'і ўжо мае месца гвалт?

**1.** Калі склалася крытычная сітуацыя, то паспрабуйце неадкладна пакінуць кватэру.

**2.** Калі здзекаванні носяць сістэматычны характар, то загадзя трэба сабраць самыя неабходныя рэчы і пакінуць іх у бяспечным месцы – у родных ці сяброў.

**3.** Заўсёды трымайце дакументы, ключы і грошы ў такім месцы, каб, пакідаючы кватэру, вы маглі хутка ўзяць іх з сабой.

**4.** Папытайце суседзяў, якім вы больш іншых давяраеце, каб яны выклікалі міліцыю, калі пачуюць з вашай кватэры крыкі.

**5.** У выпадку ж, калі вы не можаце выйсці з кватэры, неабходна:

– замкнуцца ў ваннай з тэлефонам і паспрабаваць выклікаць міліцыю:

– патэлефанаваць сябрам ці суседзям і прасіць іх прыйсці на дапамогу;

– гучна клікаць на дапамогу;

– адкрыць вокны, паспрабаваць прыцягнуць увагу праходзячых і прасіць іх дапамогі:

**6.** Калі вам усё-такі атрымалася выскачыць па лесвічную пляцоўку, то званіце ва ўсе дзверы, крычыце і клічце на дапамогу. Нават калі ніхто не выйдзе, прынамсі, гэта можа астудзіць нападніка, а ў вас будуць сведкі здарэння ў выпадку, калі вы ў далейшым звернецеся ў міліцыю.

**У рашэнні праблем гвалту ў сям'і Вам дапамогуць:**

**1. Праваахоўныя органы.** Калі Вы падвергліся сямейнай жорсткасці, звярніцеся ў Глыбоцкі РАУС на тэлефон 102, 2-27-02.

**2. Псіхолагі і юрысты бясплатнай гарачай тэлефоннай лініі для пацярпелых ад хатняга гвалту 8-801-100-8-801.** Лінія працуе штодня з 8:00 да 20:00. патэлефанаваць можна з любога пункта Рэспублікі Беларусь. Дапамога аказваецца ананімна і бясплатна.

3. **Глыбоцкі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва** (у дзённы час у аддзяленне сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі на тэлефон – 2-27-25).

4. **УЗ "Глыбоцкая ЦРБ".** Калі Вы папакутавалі ад фізічнага гвалту, звярніцеся за медыцынскай дапамогай у прыёмны пакой на тэлефон 5-42-58 і зафіксуйце збіццё.

# У Беларусі павялічаны грашовыя нормы выдаткаў на дзяржзабеспячэнне дзяцей-сірот

**У Беларусі павялічаны грашовыя нормы выдаткаў на дзяржзабеспячэнне дзяцей-сірот. Такая інфармацыя змешчана на сайце Міністэрства адукацыі са спасылкай на пастанову Савета Міністраў №298 ад 20 красавіка 2017 гады, паведамляе БелТА.**

Пастановай паляпшаюцца меры дзяржаўнай падтрымкі дзяцей-сірот, дзяцей, пакінутых без апекі бацькоў, асобаў з ліку дзяцей-сірот і дзяцей, пакінутых без апекі бацькоў, а таксама дзяцей, змешчаных у сацыяльна-педагагічных цэнтрах, адмысловых навучальна-выхаваўчых устаноўах, адмысловых лячэбна-выхаваўчых установах, прымачах-размеркавальніках для непаўнагалетніх.

Пастановай павялічваюцца грашовыя нормы выдаткаў на харчаванне і грашовае кампенсаванне выдаткаў на харчаванне, грашовыя нормы выдаткаў на забеспячэнне адзеннем, абуткам, мяккім інвентаром на 5%; на набыццё навучальных прыналежнасцяў, на асабістыя выдаткі – на 7%; на набыццё прадметаў асабістай гігіены – на 20%.

*БелТА*



